Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 25 (61) 21-27 чэрвеня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Увага многіх беларусаў у мінулыя выхадныя была прыкавана не толькі да IV фестывалю песні і паэзіі ў Маладзечне, але і да Масквы, да Расіі ў цэлым, дзе праводзіліся выбары прэзідэнта. Як вядома, Б. Ельцын і Г. Зюганаў выйшлі ў II тур выбараў, прызначаны на пачатак ліпеня.

Палітычныя прыхільнасці ў расійскім грамадстве вызначыліся і носяць даволі стабільны характар, бо вынікі галасавання шмат у чым паўтараюць леташнія выбары ў Дзяржаўную Думу. Трэцяя частка расіян прагаласавала за захаванне курса рэформаў, яшчэ трэць верная сацыялістычным каштоўнасцям. Выбары сталі адлюстраваннем адносін людзей не столькі да рэформаў, колькі да метадаў іх рэалізацыі.

У другім туры большасць аналітыкаў прадказвае перамогу Ельцына. Аднак яму для гэтага патрабуецца падтрымка электарату А. Лебедзя і Р. Яўлінскага, якія маюць ліберальную эканамічную праграму. З першым саюз ужо заключаны– ён прызначаны Сакратаром Савета Бяспекі, увайшоў у каманду дзеючага прэзідэнта. Хутчэй за ўсё, згадзіцца на кампраміс з уладамі і Яўлінскі, бо задаволена яго асноўнае патрабаванне– зняты з пасады Міністра абароны П. Грачоў.

Лідэрам камуністаў Зюганавым магчымасці сваёй сацыяльнай базы практычна вычарпаны. Гатоўнасць левых да шырокіх кампрамісаў адвярнула ад іх многіх выбаршчыкаў, верагоднасць перамогі Зюганава ў II туры нізкая.

Чаго ж чакаць нам? Будзем спадзявацца, што перамога Ельцына будзе азначаць перамогу ідэй рэформаў і ў нашай краіне.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑ Заўтра прадстаўнікі дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў і БНФ маюць намер правесці акцыю "Народ супраць фашызму і таталітарызму ў любой яго форме". Мінскі гарвыканком даў згоду на правядзенне мітынгу, але з прапануемага дэмакратамі месца каля Палаца спорту адправіў іх на традыцыйнае месца збору камуністаў– на летнюю эстраду парку Горкага. Аргкамітэт акцыі распрацоўвае меры падтрымкі парадку, каб не дапусціць канфліктаў і правакацый.

❑ У выпадку выканання патрабаванняў улады па давядзенню да самаакупнасці гарадскога транспарту да 80% адзін талон на праезд будзе каштаваць 4000 руб. З улікам нізкага ўзроўню жыцця насельніцтва, кошт праезду будзе павышацца паэтапна з прывязкай да ўзроўню заработнай платы. Па некаторых дадзеных, яна будзе павялічана ў жніўні-верасні.

❑ Пасля вяртання з Сочы з мэтай удакладнення сітуацыі на месцах адпачыўшы А. Лукашэнка заслухаў старшынь аблвыканкомаў і старшыню Мінгарвыканкома. Прэзідэнта цікавілі праблемы будаўніцтва жылля, своечасовасці выплаты пенсій і заработнай платы, абмяркоўваліся пытанні аб кіраванні шэрагам буйных прадпрыемстваў. Прэзідэнт запатрабаваў павысіць адказнасць упраўленцаў за даручаную справу і актывізаваць работу па рэалізацыі прадукцыі.

❑ Імкненне беларускіх прамыславікоў да абавязковага адлюстравання вынікаў перамоў ва ўражваючых лічбамі кантрактах прадэманстравана ў чарговы раз. З прадстаўнікамі Яраслаўскай вобласці падпісана пагадненне на суму больш за 600 млрд. расійскіх рублёў. Аднак наяўнасць кантрактаў не заўсёды гарантуе пастаўкі тавараў– яраслаўскіх рухавікоў няма і наш МАЗ стаіць увесь чэрвень.

❑ На адбыўшыхся ў апошнія дні пашыраных калегіях Кабінета Міністраў рэспублікі разглядаўся стан фінансава-гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў Мінсельгаспрама, Мінлегпрама і Міністэрства прамысловасці ў цэлым. Кіраўнікам галін даручана распрацаваць канкрэтныя меры па стабілізацыі вытворчасці, паляпшэнню рэалізацыі прадукцыі і зніжэнню яе запасаў на складах.

❑ Па швах "трашчыць" бюджэт– паступленне яго даходнай часткі склала 64% ад плануемага ўзроўню. У выніку на выплату майскай пенсіі фонду сацыяльнай абароны не хапіла 600 мільярдаў рублёў, кожны другі пенсіянер атрымаў пенсію са спазненнем на месяц. Запазычанасць па зарплаце за красавік-май толькі ў галіне адукацыі перавысіла 400 млрд. руб.

❑ Прадстаўнікі аб'яднання ашуканых укладчыкаў правялі чарговы санкцыянаваны ўладамі мітынг, на якім прасілі кіраўніцтва і прэзідэнта абараніць іх канстытуцыйныя правы. Магчыма, што ў выніку прадпрымаемых у апошні час Нацбанкам і кіраўніцтвам намаганняў з мэтай "аздараўлення" фінансава-крэдытнай сістэмы намаганняў рады ашуканых (каля 12 тысяч чалавек) папоўняцца ўкладальнікамі раней стабільных банкаў.

❑ З 18 чэрвеня прадстаўнікамі асацыяцыі незалежных прафсаюзаў пікетуецца Вярхоўны Савет з мэтай надання зарплаце першачарговага плацяжу. Акцыя праводзіцца да канца месяца.

❑ На адбыўшымся 18 чэрвеня пашыраным пасяджэнні з удзелам А. Лукашэнкі разглядаўся так хвалюючы многіх курс беларускага рубля, які знаходзіцца пад асобай апекай прэзідэнта. Згодна з маючым быць Указам курс мусіць адпавядаць асноўным патрабаванням грамадзян– застанецца прадказальным і стабільным. Але ўжо не 13100.

## Бывай, "Маладзечна-96"

### Іх імёны не пішуць у цітрах

***Фестываль "Маладзечна-96" паспяхова завяршыўся. Уся рэспубліка мела магчымасць глядзець прамыя трансляцыі канцэртаў.***

Пасля кожнай перадачы на экранах ТБ ішлі цітры з прозвішчамі людзей, дзякуючы каму гэта стала магчымым. Але многія, як кажуць, засталіся па-за кадрам. З адным з іх, добра вядомым сярод радыёаматараў нашай краіны, фестывальны лёс звёў мяне нечакана.

Невысокі чалавек з сівавата͏й галавой разгружаў радыёрэлейную апаратуру, цягаў кабелі, вяроўку, рабіў самую цяжкую работу. Яго начальнік, вядучы інжынер Беларускага радыётэлевізійнага цэнтра Георгій Лузін прадставіў: "А гэта наш Васіль Васільевіч.– І дадаў: Пясецкі".

Адразу ўспомніліся кніжкі, артыкулы ў газетах і часопісах, напісаныя гэтым чалавекам.

Спадар Пясецкі згадзіўся быць тэхнічным кансультантам "Рэгіянальнай газеты", якую вітае за яе беларускамоўнасць. У бліжэйшы час падрыхтуем матэрыял аб усіх радыё- і тэлевізійных перадатчыках, размешчаных у рэгіёне: якая іх магутнасць, што вяшчаюць і інш. Так што чытачы могуць пісаць у "РГ" і атрымаць самыя кваліфікаваныя адказы.

Многія спецыялісты працавалі на фестывалі, многія не трапілі ў цітры. Але ад іх высокакваліфікаванай працы залежаў настрой не толькі ўдзельнікаў фестывалю, гледачоў у Маладзечне, але і па ўсёй краіне. Самай лепшай адзнакай было "заўваг няма" пасля яго закрыцця. Гэты поспех– кавалак працы і Васіля Пясецкага, і іншых, пра каго не ведаюць гледачы.

Пакідалі Маладзечна супрацоўнікі радыётэлецэнтра ў добрым настроі. Хутка мы сустрэнемся зноў. Прапрацоўваецца арганізацыя трансляцый футбольных матчаў Кубка УЕФА-Інтэртато. Першым за ўсю гісторыю Маладзечна прамым футбольным рэпартажам, напэўна, стане гульня мінскай "Атакі-Аўры" з італьянскім "Удзінэзе". Магчыма, дачакаем часоў, калі і "Маладзечна" згуляе з "Міланам" ці "Рэалам", а прамы эфір забяспечаць работнікі РТПЦ і радыёрэлейшчыкі.

*Мікола ЛІННІК.*

### На рэпетыцыю... у млын

На закрыцці фестывалю Уладзіміра Някляева з юбілеем віншавалі яго землякі. Паэт нарадзіўся ў вёсцы Крэва, жыў у Смаргоні на вуліцы імя Багушэвіча.

На фестываль "Маладзечна-96" прыехаў народны фальклорны калектыў "Валейчанка". Роўна дваццаць гадоў таму Марыя Буцько, цяпер дырэктар базавай школы, і настаўніца Ванда Роля стварылі яго ў вёсцы Валейкавічы. Любоў да песні аб'яднала даярак, паляводаў, спецыялістаў гаспадаркі, якія збіраюць па раёну песні, абрады, даюць ім другое жыццё.

Матэрыялы даследчай, творчай работы не ўмяшчаліся ў рамках звычайнага сельскага клуба. Таму і стварылі Дом фальклору: у клубе праходзяць рэпетыцыі, а метадычная частка знаходзіцца ў старым, хаця і адрамантаваным, млыне. На першым паверсе стаяць кросны, на другім размешчаны матэрыялы аб фальклорных калектывах раёна, на трэцім– аб мясцовых святах і абрадах.

Калі дарослыя выступалі ў Польшчы, Вільнюсе, Полацку, Пінску і пяць гадоў таму зарабілі званне "народны", то іх дзеці толькі пачынаюць спяваць. У іх свой фальклорны калектыў "Кропелькі". Зялёная вуліца ўсім таленавітым дзецям, неабавязкова валейкавіцкім.

А Уладзіміра Някляева калектыў віншаваў песняй "У Марцінавым садзе". Сваёй, а значыць і яго. Бо карані– адны.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Навіны

### Аўтограф ад Юрыя Нікуліна

***МАЛАДЗЕЧНА. Вядомы "белы папугай" і дырэктар цырка скардзіцца, што лістоў за дзень прыходзіць па паўмеха, немагчыма адказаць на ўсе.***

А вось першакласніку Івану Бялкову пашчасціла. Яшчэ ў лістападзе ён і шасцігадовы брат Колька ўкінулі ў паштовую скрыню канверт з дакладным, на іх думку, адрасам: "Москва, Цветной бульвар, Цирк, Никулину". І паехалі ў суседнюю сталіцу іх малюнкі: клоўны, слон, які падкідае хобатам мяч, вушастыя малпачкі.

Днямі прыйшоў адказ. Вялікі артыст даслаў у невялікі беларускі горад аўтограф.

На радасцях Іван купіў на свае невялікія накопленыя грошы бананы для сябе і Колькі.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Хроніка аднаго тэракта

***ВІЛЕЙКА. На тэрыторыі камбікормавага завода пад пагрузкай стаялі вагоны са збожжам. У 8.30 рабочы завода пачаў разгрузку– націснуў на рычаг люка аднаго з вагонаў. Штосьці зацікала.***

"Мабыць, бомба з гадзіннікавым механізмам",– падумаў здзіўлены і адначасова перапалоханы грузчык. Пабег да начальства: у свеце дастаткова дыверсій, выбухаў, стрэсаў, крыві.

Аператыўна спрацавалі ўсе службы горада. Вагон лябёдкай адцягнулі як мага далей ад будаўнічых аб'ектаў. Адчапілі, наладзілі дзяжурства.

Старшыня выканкома ў гэты час сустракаў Філарэта. Пакінуў духоўную асобу са сваімі намеснікамі. Сабраў прадстаўнікоў гарадскіх службаў, каб распрацаваць далейшыя дзеянні.

Ціканне слухалі дырэктар камбікормавага завода, ваенком. Пры больш дэталёвым аналізе становішча звярнулі ўвагу на вібрацыю. У трохстах метрах размешчана АТ "Буддэталь". Патэлефанавалі дырэктару, той спыніў станкі. Ціканне знікла. У 10.30 усім далі адбой.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Іна Афанасьева вітае беразінцаў

***У мінулую суботу аргкамітэт міні-футбольнага турніру "Беразінскае-96" выпрацаваў канчатковыя парадак і ўмовы яго правядзення.***

Жараб'ёўка вызначыла наступныя пары каманд, што сустрэнуцца 29 чэрвеня ў чвэрцьфінале: ЗЛМК (Маладзечна) - "Лебедзева" і "Вілейка" - "Валожын" (пачатак у 15.15), "Забудова" (Чысць) - "Акдзімоп" (Хажова) і "Аліна" (Радашковічы) - "Беразінскае" (пачатак у 17.15).

Пераможцы гуляюць паміж сабою у паўфінале (гэтыя матчы, як і гульні за I і III месцы, пройдуць 30 чэрвеня). Таксама ў нядзелю на футбольным полі сустрэнуцца зборныя сузаснавальнікаў "Беразінскага-96" і мясцовых ветэранаў футбола. Галоўны суддзя турніру – Сяргей Бароўскі.

Першы гульнёвы дзень заканчваецца вялікай музычна-забаўляльнай праграмай. Прыедзе ў Беразінскае Іна Афанасьева, спрабуе знайсці "акно" ў сваіх гастрольных паездках Валерый Дайнека.

*Аддзел інфармацыі.*

### Стала сям'я мнагадзетнай

***Першая сёлетняя двойня нарадзілася на Валожыншчыне ў сям'і Валянціны і Антона Бэндзікаў з Сугваздаў.***

Дзяўчынкам далі імёны Кацярына і Алёна. Да гэтага часу малады бацькі выхоўвалі шасцігадовую Аляксандру і чатырохгадовага Дзмітрыя. Прыбаўленне патомства зрабіла Бэндзікаў мнагадзетнай сям'ёй, якая можа разлічваць на пэўную дзяржаўную падтрымку.

*Наталля СЯМЁНАВА.*

### Гаварыце на іўрыце

***МАЛАДЗЕЧНА. Беларусы заўсёды прыхільна ставіліся да краіны пад назвай Ізраіль, да тых, хто лічыць яго сваёй гістарычнай радзімай.***

А ў Маладзечне ў цяперашні час арганізуюцца курсы па вывучэнню культуры, мовы яўрэяў– іўрыту. Праўда, займацца там могуць тыя, чые хаця б бабка ці дзед належаць да старажытнай нацыі. Звязана гэта не з нейкім "сіянізмам", а са звычайнай асцярожнасцю, што выпрацоўвалася ў яўрэяў на працягу стагоддзяў.

Яўрэі пакідаюць нават Беларусь. Наўрад ці гэта нармальная з'ява, асабліва калі ўлічыць, што яны не ходзяць з крыжовымі паходамі ў барацьбе за сваю веру.

*Аддзел інфармацыі.*

### Спікер на раённай трыбуне

***ВАЛОЖЫН. Наўрад ці ёсць нейкая сувязь паміж вострым выступленнем С. Шарэцкага у парламенце і яго прыездам у Валожынскі раён неўзабаве пасля гэтага.***

Але спікер вырашыў скарыстаць сціплую раённую трыбуну, каб у папулярнай форме, з прыкладамі з нашай і амерыканскай рэчаіснасці паўтарыць галоўныя тэзісы, выкладзеныя перад дэпутатамі. Тым, хто добра ведаў Шарэцкага на працягу васьмі гадоў яго старшынёўства ў калгасе "Чырвоны сцяг", было цікава паслухаць спікера і задаць яму пытанні.

Невядома пакуль, як ставіцца да палымяных маналогаў Старшыні Вярхоўнага Савета: чакаць ажыццяўлення яго смелых прапаноў, ці проста забыць, як не вартыя ўвагі. Будзе шкада, калі думкі, прапановы разумнага чалавека, эканаміста-тэарэтыка і практыка, акадэміка чатырох айчынных і замежных акадэмій не знойдуць рэальнага працягу, а будуць простым трасеннем паветра.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

# Гіруць з вяскоўцамі за руку вітаецца

**СМАРГОНЬ. У Мечыслава Гіруця, дэпутата ад сельскай выбарчай акругі №143, члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета, спраў большчым дастаткова— не злавіць. А вось яго памочнік Аляксей Апановіч заўсёды на месцы. У час размовы з ім дакучаў тэлефон— калі прыедзе Іванавіч!**

*—Пенсіянеры перадыху не даюць?*

—Тэлефануюць і прыходзяць на прыём 20-30-гадовыя і каму за 50. Само жыццё вызначае ўзроставыя катэгорыі, якія маюць патрэбу ў дапамозе. Людзі сярэдняга ўзросту самі вырашаюць свае праблемы. Багатыя таксама не дакучаюць. Частыя госці— кіраўнікі дзяржаўных структур: адміністрацыя льнозавода, завода сушкі гародніны, саўгаса "Світанак", калгасаў "Светлы шлях", "Савецкая Беларусь".

Тэма адна— грошы. Каму адцягнуць тэрмін плацяжоў, каму трэба завяршыць будаўніцтва. Але ўсё ж значная колькасць асабістых просьбаў. Вера Сцяпанчанка— жонка ваеннаслужачага. Муж— маёр інтэнданцкай службы. Трыццаць мільёнаў застаўся вінаваты дзяржаве. Родныя сабралі неабходную суму. Разлічыліся. Цяпер усе чакаюць суда. Калі трапіць за краты, што будзе з сям'ёй: жонка, дзеці, пакой у інтэрнаце.

Сям'я Івановых (прозвішча зменена). У васьмідзесятыя гады сын служыў у арміі і там загінуў. Маці не задаволілі адказы аб прычынах яго смерці. Імкнецца з дапамогай дэпутата высветліць абставіны трагічнай падзеі.

Людзям трэба жыллё. Праблема. У нас больш за дзесяць жыллёва-будаўнічых кааператываў. Запланаваныя пяці-дзевяціпавярхоўкі чамусьці не растуць.

Наконт працаўладкавання не звяртаюцца. Мясцовыя гіганты— ВА аптычнага станкабудавання, ВА "Смаргоньсілікатабетон", агрэгатны завод амаль што стаяць.

*—Ёсць калектыўныя заявы?*

—Жыхары вёскі Асінаўшчызна хочуць, каб іх дамы былі газіфікаваныя. Гатовыя за свае грошы купляць трубы, самі капаць пад іх траншэі.

Ёсць пытанні па маёмасці. У прыватызаванай кватэры жылі маці, сын і яго жонка. Сына пасадзілі на працяглы тэрмін у турму. Маці выганяе нявестку і суд падтрымлівае— усё па закону. Куды ж дзецца жанчыне?

У свой час Савецкая ўлада забрала ў так званых кулакоў дамы. Унукі раскулачанага памыкаліся па свеце. Пацягнула на радзіму. "Аддайце дом дзеда, гэта наша". І сям'і, якая там жыве: "Рамонт не рабіце, папярэджваем— за дом будзем ваяваць." А пакуль ён на балансе калгаса.

*—Ці ёсць скаргі на кіраўнікоў, мясцовую ўладу?*

—Ніхто ні на каго не скардзіцца. Тут іншы момант. У людзей засталася старая псіхалогія. Пытанне ўзнікла— адразу да дэпутата. А ўсё можна вырашыць на месцы за 5 хвілін.

*—Апошні наведвальнік— хто?*

—Галоўны ўрач тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання. У горадзе ў хуткім часе санітарныя ўмовы не дазволяць нараджаць дзяцей. Трэба будаваць акушэрскі корпус. Невырашальна з-за адсутнасці сродкаў. Таму вывучаецца пытанне аб размяшчэнні акушэрскага корпусу ў прафілакторыі ВА "Сілікатабетон".

*—Мечыслаў Іванавіч падае руку наведвальнікам?*

—Людзі бачаць у ім свайго. А з працаўніком павітацца за руку гонар і для прэзідэнта.

*На прыём не трапіў*
*Васіль САВІЦКІ.*

## Скажы, які ў цябе сабака, — скажу, хто ты

| Сацыяльнае становішча ўладальніка | Парода сабакі | Кошт |
|---|---|---|
| прадпрымальнікі, банкіры | ратвейлер | $90-500 |
| рабочыя, служачыя | баксёр<br>даберман | $50-80<br>$30-40 |
| творчая інтэлігенцыя | пудзель<br>кокер-спаніэль | ад $30 і выш.<br>ад $60 і выш. |
| сучасная мода | французскі бульдог<br>пекінес | $120<br>$100-200 |
| не папулярныя | колі<br>бультэр'ер | $30-80<br>$80-100 |

Бультэр'ераў пачалі выкідаць на вуліцу. Гэта вельмі небяспечна. Прыкус у сабакі роўны па ціску 300 атмасферам. Лёгка адкусвае рукі і ногі.

Табліца складзена па дадзеных гаспадароў сабак— удзельнікаў выставы, арганізаванай клубам "Фаўна".

# Крымінальная хроніка

## Абрабавалі самотніц

*ВАЛОЖЫН. У адным з нумароў раённай газеты "Працоўная слава" расказвалася пра дзвюх адзінокіх старых жанчын, якія многа гадоў жывуць у далечыні ад населеных пунктаў, ледзьве не на лясной палянцы. Некалі такіх хутаркоў у Забрэзскім сельсавеце было мноства, а цяпер засталіся дзве жанчыны. Перажылі і сёлетнюю, надзвычай суровую і снежную зіму, не баяліся шэрых драпежнікаў і іншых дзікіх звяроў.*

Як выявілася, баяцца трэба "двуногіх звяроў". У апошнія дні мая завіталі ў гэты "тупік" няпрошаныя госці: два невядомыя мужчыны і дзве жанчыны. Яны адабралі ў старых, якія атрымліваюць пенсіі па старасці і па інваліднасці, 260 тысяч рублёў, зарэзалі прама на вачах шасцімесячнае казляня, мяса забралі, прыхапілі і 4 курыцы.

Да гонару валожынскай міліцыі, вельмі хутка яна затрымала крымінальны квартэт, у якога паднялася рука на блажэнных.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Ненадзейны тайнік

*АСТРАВЕЦ. У "грашовых" людзей існуе дзве праблемы: першая— як зарабіць грошы, а другая— як іх захаваць.*

Відавочна, у жыхара Літвы З. першай не ўзнікала, бо паспеў ён, займаючыся камерцыяй, скапіць 2900 долараў ЗША; прыкупіў 15 пар абутку, відэамагнітафон і тэлевізар "Шыляліс", іншае. Заставалася толькі захаваць такое дабро ад вачэй людзей з нячыстымі намерамі. Гарадская кватэра не падышла, і тады ён успомніў, што ў вёсцы Асінаўка на роднай Астравеччыне сярод лясоў пустуе дом нябожчыцы-маці і вырашыў увесь набыты "капітал" схаваць тут.

Але аднойчы невядома адкуль даведаліся пра "тайнік" не менш прадпрымальныя людзі, узламалі дзверы і ўкралі ўсе каштоўнасці. Вось толькі на шчасце ўладальніка і на бяду злодзеяў— траіх літоўцаў— нядоўга апошнім давялося радавацца. Аператыўна зрэагавалі супрацоўнікі нашай міліцыі разам з крымінальнай паліцыяй Тракайскага раёна. За тры дні з моманту здзяйснення злачынства выявілі і злавілі падазраваемых. У далейшым віну кожнага з іх установіць суд, а пакуль следства па справе вядзе Генеральная пракуратура.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## "Золаташукальнікі"

*Кожны асабіста вырашае, як зберагчы грошы ад інфляцыі— хтосьці купляе замежную валюту, хтосьці кладзе іх на дэпазіт у банку, а ёсць такія, што купляюць залатыя вырабы і лічаць: падобнае захаванне капіталу— самае надзейнае, бо золата яно і ў Афрыцы золата.*

Да ліку такіх людзей можна смела аднесці і жыхарку Астраўца Б. Купіла яна за заробленыя грошы залатыя пярсцёнкі, ланцужкі і іншыя вырабы. Схавала ў сябе дома і больш не турбавалася.

Ды вось толькі "пранюхалі" пра залаты "Кландайк" грамадзяне П. і Р. і вырашылі, што павінна гаспадыня падзяліцца з імі. Аднаго разу, калі дома нікога не было, яны шляхам падбору ключоў праніклі ў дом гэтай жыхаркі і зрабілі сваю справу. Праўда, на іх след неўзабаве выйшлі супрацоўнікі крымінальнага вышуку, пацікавіўшыся: "Адкуль залацішка?" Адказ на такое пытанне цяпер даюць у кабінеце следчага няўдалыя "золаташукальнікі".

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Абуліся

*АСТРАВЕЦ. Участак шашы Вільнюс-Полацк супрацоўнікі крымінальнага вышуку мясцовага РАУС лічаць адной з найбольш крыміногенных зон— тут часта здараюцца злачынствы, у асноўным крадуць тавар з фургонаў.*

Браты Алег і Вадзім М. з вёскі Варона вырашылі такім чынам здабыць нейкую капейчыну. Непадалёку ад пагранічнага пераходу "Катлоўка" яны залезлі на хаду ў "МАЗ", у якім знаходзіліся скрынкі з абуткам. Прыкінулі, што для вадзіцеля будзе "аж занадта". Доўга не раздумвалі: выкінулі 8 скрынак (у кожнай па 12 пар) спартыўнага абутку.

Але не давялося хлопцам пафарсіць перад дзяўчатамі абноўкамі ці заняцца спортам. Напэўна, рабіць зарадку ім з цягам часу прыйдзецца не ў імпартных красоўках і ў тых мясцінах, "где даже летом холодно в пальто"? А пакуль вядзецца следства.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Сядуць. За парты

*МАЛАДЗЕЧНА. Вучні падлічваюць адзнакі, здаюць у бібліятэкі падручнікі, рыхтуюцца да экзаменаў. Настаўнікі ідуць на адпачынак. Усе збяруцца разам крыху больш як праз два месяцы.*

Што ўяўляе сабой сярэднестатыстычны дзесяты клас звычайнай школы? 24 падлеткі сядуць восенню за парты. Восем з іх павінны сядзець за першай партай— штогод пагаршаецца зрок. Чацвёра стаяць на ўліку ў кардыёлага, чацвёра— у эндакрынолага. Трое павінны захоўваць дыету. Двое вызвалены ад наведвання басейна. Дзевяць юнакоў і дзяўчат урачы абавязалі хадзіць на лячэбную фізкультуру.

*Аддзел інфармацыі.*

## Мора ад Раёўкі далёка. А яго дары тут самыя танныя ў акрузе

*МАЛАДЗЕЧНА. Справа ў тым , што кардонная фабрыка, вакол якой некалі і вырас пасёлак, пачала супрацоўнічаць з адной з салідных рыжскіх фірм па перапрацоўцы і пастаўцы ў Беларусь рыбнай прадукцыі.*

З сыравіны заказчыка тут вырабляюць скрынкі з гафрыраванага кардону для ўпакоўкі кансерваў. Адтуль і самі кансервы: у заводскай сталовай усімі намі любімыя шпроты каштуюць 8.300, сардзіны ў алеі— 7.800.

Працаваць на давальніцкай сыравіне фабрыцы не вельмі выгадна, але ва ўмовах эканамічнага крызісу выбіраць не прыходзіцца— не прастойвала б вытворчасць. 9 мільярдаў вінаваты прадпрыемству заказчыкі. Адсюль і яго непрацаздольнасць, і запазычанасць сваім работнікам па зарплаце за красавік. Спажывецкі мінімум у 625 тысяч, праўда, кожны з іх атрымаў. Астатнюю суму можна выбраць прадуктамі ў сталовай: тымі ж кансервамі, прадукцыяй птушкафабрык, для якіх кардонная фабрыка пастаўляе бугрыстыя пракладкі для яек.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*



## Памаліліся і перамаглі

*МАЛАДЗЕЧНА. Два месяцы вучні пачатковых класаў— дзеці сем'яў перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны правялі ў Італіі.*

Іх запрасіла мясцовая рэлігійная арганізацыя. Дзеці жылі ў 1-3 павярховых дамах, у якіх па дзевяць туалетаў, па шэсцьдзевяць тэлевізараў. Уразілі жылыя пакоі— у адным налічылі 69 карцін, у другім— 12 дываноў. Дзеці папраўліся на 3-7 кілаграмаў.

Перыядычна наведвалі касцёл. Бачылі Папу Рымскага. Праслухалі яго малітву на 12 мовах. У вольны час гулялі з італьянцамі ў футбол і ўсё прайгравалі. А ў апошнім матчы пашчасціла. "Напярэдадні мы памаліліся Богу",— так нашы раскрылі сакрэт перамогі.

*Аддзел інфармацыі.*

# Дэміса Русаса знайшлі на сметніку

*МАЛАДЗЕЧНА. На пласцінку вядомага спевака ледзь не наступілі. "Да Расіі з любоўю",— такую назву меў дыск.*

Гарадскі сметнік. Там асабліва не паразмаўляеш— усе занятыя справай. У будні бліжэй да вечара збіраецца чалавек сто. Чакаюць машыны. Больш моцныя адразу скачуць на кузавы. Усё, як у зграі,— мацнейшы выжывае.

Вузкай спецыялізацыі няма. Хапаюць бутэлькі, паперу, анучы, прадукты харчавання. Шукаюць цвікі, дровы, выкінутыя рэчы. Сцягваюць усё ў адну кучу. Потым сартуюць і вывозяць. Працуюць сем'ямі. Хто збірае, хто ахоўвае. Выкарыстоўваюць каляскі, розныя прыстасаванні. Ля нас прайшоў мужчына, быццам салдат рэвалюцыі,— у рамянях, да якіх ззаду, спераду прычэплена ўвязаная макулатура, кілаграмаў 40. Некаторыя не ходзяць дадому на абед, ядуць тут жа: што знойдуць. Работнікі "Камунальніка" аднаго разу пакаштавалі моркву, ды атруціліся. А гэтых нічога не бярэ. На сметніку мала старых, значнай большасці да 50. Многа дзяцей, сабак і чаек.

Аўтарытэт-бомж Сцёпка тут жыў не адзін год. Скалаціў з фанеры домік на ўскрайку лесу. Акрамя дармавых прадуктаў, адзення, меў стабільны заробак— здаваў бутэлькі. Паехаў да родных, ці, можа, печыцца дзе. Цяпер тут іншыя знакамітасці. Дзве дзяўчыны-алкагалічкі, якіх мясцовыя "старацелі" чамусьці завуць "галавакі"... "галава-конь".

У адзіным жылым доме, што побач са сметнікам, склад макулатуры. Ляжыць гарой яна на двары, увязаная, падрыхтаваная да вывазу. Гавораць, адкрыў тут кааператар пункт прыёму. Усім зручна. Неабавязкова вазіць паперу ў горад, расцэнкі тыя ж. Ды і гаспадыні дому капейка перападае. Прымае добрасумленна, без выхадных. Могуць і ноччу пагрукаць у акенца. Калі раней цягнулі газеты і часопісы, то цяпер скрынкі ад "буржуйскіх" прадуктаў.

З ранку да вечара працуюць работнікі "Камунальніка". У трактарыста свае абавязкі, у дзяжурных свае: фіксуецца час прыезду і ад'езду машын, што абслугоўваюць горад. Машыны арганізацый павінны мець дазвол на карыстанне сметнікам. І за гэта трэба плаціць— 35 тысяч за тону плюс экалагічны падатак. Штодзень едуць з мэблевай фабрыкі, завода "Спадарожнік". Бывае 10-15 машын за дзень, у святы— 2-3.

Дзяжурныя службу неслі ў вагончыку. Ён стаяў на дарозе, ніяк не мінеш. У пачатку месяца падлеткі "службовае памяшканне" спалілі. Утрох вярталіся з дыскатэкі, нападпітку.

Побач будуецца новы сметнік. Тэрыторыя часткова агароджана бетонам, пабудаваны цагляныя гаражы. Лепей будзе наладжана прапускная сістэма. А старыя барханы смецця пахаваюць пад пясок.

Увага! На сметніку многа пластмасавых бутэлек з-пад безалкагольных напояў. А на рынку ў такіх купляем малако.

*Васіль САВІЦКІ.*

